# Людміла Рублеўская

*Людміла Рублеўская нарадзілася 5 ліпеня 1965 года ў Мінску. Пасля заканчэння Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага на аддзяленні паэзіі, скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працавала ў газеце «Наша слова», літаратурным кансультантам у «Народнай газеце», загадчыкам аддзела крытыкі ў часопісе «Першацвет» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Цяпер – літаратурны аглядальнік газеты «Советская Белоруссия».*

*Пачала друкавацца ў 1983 годзе. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, прозы, драматычных твораў, твораў для дзяцей, а таксама твораў у жанры крытыкі і літаратуразнаўства. Аўтар раманаў «Золата забытых магіл», «Скокі смерці», «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію», цыкла апавяданняў «Старасвецкія міфы горада Б.», дзе антычныя міфы скрыжоўваюцца з рэаліямі беларускага мястэчка XIX стагоддзя. Аповесць «Ночы на Плябанскіх млынах» пабудавана на міфах і легендах горада Мінска. Пра гісторыю Мінска пісьменніца стварыла і кнігу краязнаўчых нарысаў «Я – мінчанін». Карыстаюцца вялікай папулярнасцю цыклы казак «Прыгоды мышкі Пік-Пік» і «Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны».*

*Драматычныя творы пісьменніцы друкаваліся ў літаратурных выданнях, ставіліся на сцэнах народных і прафесійных тэатраў. Па драматычнай паэме «Апошняя з Алелькавічаў» зняты*

*аднайменны фільм на Беларускім тэлебачанні (1999). Асобным выданнем выйшла гісторыка-дакументальная п'еса «Людвіка і Фабіян», напісаная ў сааўтарстве з вядомым гісторыкам Віталем Скалабанам.*

*П'еса «Янук, рыцар Мятлушкі» напісана ў 1994 годзе. Пастаўлена на сцэне Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа пад назвай «Прыгоды вандроўнага рыцара» ў маі 2002 года.*

# Янук, рыцар Мятлушкі

*П'еса-казка ў трох дзеях*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Мятлушка.
Янук Шукайла-Залескі.
Князёўна Даратэя.
Кадук.
Лесавічок.
Жытнічак.
Начніцы.
Страхі.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Ясная летняя ноч. На галінах дрэў гушкаюцца Мятлушка — танклявая дзяўчына ў лёгкай шэрай сукенцы, з пушыстымі попельнымі валасамі і празрыстымі крыламі за спінай, і яе сябры — Лесавічок і Жытнічак.

Мятлушка. Як хораша сёння ў лесе! Як ласкава свеціць Маці-Поўня!

Лесавічок. А на ялінах ужо выраслі зялёныя свечкі-пупышкі, духмяныя-духмяныя!

Жытнічак. І жыта ўжо зарунела... Калі яно вырасце вышэй за мяне, пойдзем зноў гуляць у хованкі!

М я т л у ш к а *(мройна).* Як мне хочацца, каб здарылася нешта незвычайнае! Можа, збегаем да русалак, паслухаем іх песні?

Л е с а в і ч о к. Не, лепей падыдзем да Чорнага балота, паглядзім, як з дрыгвы ўсплываюць срэбныя лілеі!

Ж ы т н і ч а к. Ціха, сябры, нехта ідзе!

М я т л у ш к а. Гэта чалавек!

Л е с а в і ч о к. Давайце павесялімся!

Ж ы т н і ч а к. Ён зусім малады — і адзін! Зараз настрашым!

Хаваюцца за ствалы дрэў. На паляну выходзіць малады хлапец у шляхецкай, але вельмі падранай вопратцы, з рыцарскім мячом. Гэта Я н у к.

Я н у к *(спявае)*

Высакародны рыцар
Нікога не баіцца.
Ён па зямлі вандруе,
Каб ратаваць людзей.
Апалая ігліца
Пад месяцам іскрыцца,
І рыцар, што вандруе,
На сцежцы не ўпадзе.

З трох бакоў на Янука кідаюцца з жахлівымі крыкамі Мятлушка, Лесавічок і Жытнічак, стараюцца напалохаць. Янук выхоплівае меч.

Ах вы, подлыя нападнікі! Я — высакародны шляхціц і ніколі не адступаю! Вось я вас!..

Янук ганяецца за жартаўнікамі, але дзе дагоніш гарэзлівых юных духаў! Нарэшце ўсе стамляюцца.

М я т л у ш к а *(крычыць).* Перастаньце! *(З добрай усмешкай падыходзіць да Янука.)* Глядзіце, ён зусім не спалохаўся!

Я н у к. Вы хто такія?

М я т л у ш к а. Я — Мятлушка, дачка Поўні.

Л е с а в і ч о к. Я — Лесавічок, сын лесу.

Ж ы т н і ч а к. А я — іх сябрук, Жытнічак. Мая маці — русалка, а дом — жытнёвае поле. А як завуць цябе?

Я н у к *(кланяецца з вялікай годнасцю, урачыста адказвае).* Пан Янук Шукайла-Залескі!

Л е с а в і ч о к. Чаму ж такі высакародны пан — ды без каня?

Я н у к *(не паднімаючы вачэй, паўтарае завучаную байку).* Дарогай здарылася са мною страшнае няшчасце. Быў у мяне цудоўны конь з каралеўскае стайні. Але яго з'елі ваўкі...

М я т л у ш к а. Ваўкі?! У нашым лесе?

Я н у к *(збянтэжыўшыся).* Ваўкі...

Ж ы т н і ч а к. А чаму такі высакародны рыцар ходзіць без капелюша?

Я н у к *(ужо без ранейшай упэўненасці).* Дарогай здарылася са мною страшнае няшчасце. На маім цудоўным капелюшы быў вялікі дыямент з каралеўскага куфэрка. Але магутны арол...

Мятлушка падыходзіць да юнака і дакорліва глядзіць яму ў вочы, але той усё-ткі працягвае аповед.

...прываблены бляскам, кінуўся на гэты дыямент і знёс... разам з капелюшом...

М я т л у ш к а. Ну нашто ты маніш? Вось дзіўныя вы, людзі! Хочаце здавацца не такімі, якія вы ёсць.

Я н у к *(жадаючы апраўдацца).* Мой род высакародны. Мой прадзед, дзед і бацька ваявалі за караля...

Ж ы т н і ч а к. І пакінулі цябе ў падраных портках!

Абражаны Янук спрабуе злавіць гарэзніка, але той залазіць на дрэва і дражніцца адтуль.

М я т л у ш к а *(прымірэнча).* Куды ж ты ідзеш?

Я н у к. У палац Кадука, ратаваць князёўну Даратэю!

Слухачы ўражаныя. Нават Жытнічак злазіць з дрэва і падыходзіць да Янука.

Л е с а в і ч о к. Вар'ят! Ніхто з людзей не можа прайсці ў палац да Кадука!

Ж ы т н і ч а к. Кадук з'яўляецца толькі ў адну хвіліну — апоўдні, і толькі тады, калі яго паклічуць.

Л е с а в і ч о к. Як пажадае хто-небудзь каму: «Кадук цябе забяры...», то Кадук з'явіцца... і забярэ...

Ж ы т н і ч а к. Князёўна Даратэя гэтаксама апынулася ў Кадука! Я чуў, што яе бацька, вялікі князь, так моцна на яе раззлаваўся, што і сказаў гэтыя словы... І якраз трапіў на страшную хвіліну. Пасля, канешне, шукаць кінуўся, узнагароду абвясціў таму, хто верне дачку...

М я т л у ш к а. Не можа быць, не можа быць, каб родны бацька сказаў такое на дачку!

Я н у к. Вядома, ніхто не мог сказаць такое цудоўнай панне Даратэі! Я знайду гэтага подлага Кадука і заб'ю яго!

Л е с а в і ч о к. Але ісці трэба праз Чорнае балота...

Ж ы т н і ч а к. Але палац Кадука вартуюць Начніцы і Страхі...

Я н у к *(дэкламуе)*

Хай сонца паліць,
Хай дождж імжыць,
Зліецца неба з зямлёй —
А рыцар мусіць заўжды служыць
Чароўнай Даме сваёй.

Я знайду цябе, о панна Даратэя!

М я т л у ш к а. Няўжо ты не баішся?

Я н у к. Калі хочаш служыць сваёй Даме — нельга баяцца нічога. Каб вы ведалі, якая панна Даратэя прыгожая! Аднойчы яна скінула мне з балкона кветачку... *(Беражліва дастае схаваную на грудзях кветку.)*

Мятлушка бярэ яе, каб разгледзець, і палохаецца.

М я т л у ш к а. Ой, яна несапраўдная!

Л е с а в і ч о к. Як гэта можа быць? *(Бярэ кветку.)* Ой, праўда, яна мёртвая! *(Аддае кветку Жытнічку.)*

Ж ы т н і ч а к. Нежывая кветка! Фу! *(Кідае яе на зямлю.)*

Я н у к. Што вы разумееце! *(Беражліва падымае кветку, хавае.)* Гэта штучная кветка з самага тонкага шоўку. Панна Даратэя любіць прыгожыя рэчы.

М я т л у ш к а. Нежывыя рэчы любіць нельга!

Л е с а в і ч о к. Ды ён проста хоча зрабіцца князем! Ведаем мы такіх выратавальнікаў! Здзейсніць подзвіг, а пасля яму — паўкняства давай і князёўну ў дадатак!

Я н у к *(мройна).* Я мару толькі пра адно... Я выратую яе, стану перад ёй на калена... *(паказвае)*, а яна пакладзе сваю белую ручку мне на плячо і скажа: «Высакародны Янук Шукайла-Залескі, ты добра служыў мне, і я пасвячаю цябе ў свае рыцары!»

М я т л у ш к а. Паслухай, не хадзі да Кадука... Ты загінеш!

Л е с а в і ч о к. Акрамя таго, твой меч — бяссілы. Кадука можа забіць толькі месячны прамень — нездарма ж Кадук з'яўляецца толькі ўдзень, а ў яго палацы заўсёды свеціць сонца.

Я н у к. Як жа можна прынесці туды прамень? Яго не зловіш...

М я т л у ш к а. Чаму? Гэта вельмі проста! Глядзі! *(Бярэ ў рукі месячны прамень.)*

Янук, уражаны, спрабуе зрабіць тое самае, але ў яго не атрымліваецца.

Ж ы т н і ч а к. Яна — дачка Поўні! Толькі Мятлушка можа ўзяць у рукі месячны прамень!

Я н у к. Рыцарскі меч адолее любога злодзея, а шляхецкая адвага вартая любой чароўнай зброі! Але ж я з вамі забавіўся.

М я т л у ш к а. Давай я правяду цябе, Янук!

Я н у к. Яшчэ чаго! Не хапала, каб шляхціцу дапамагала лясное дзяўчо. Бывайце! *(Адыходзіць.)*

Л е с а в і ч о к. Пабеглі да русалак!

Ж ы т н і ч а к. Пабеглі!

М я т л у ш к а. Вы бяжыце, сябры, а я прылячу пазней.

Ж ы т н і ч а к і Л е с а в і ч о к выбягаюць.

А я ўсё-ткі прыгледжу за гэтым рыцарам...*(Накіроўваецца ўслед за Януком.)*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Чорнае балота. Я н у к з цяжкасцю прабіраецца па карчах.

Я н у к. Хай... сонца паліць... Хай... дождж імжыць... Зліецца... неба з зямлёй... А рыцар... О халера! *(Ледзь не падае.)* Мусіць заўжды... служыць...Чароўнай Даме сваёй... О халера! *(Правальваецца ў дрыгву.)*

З'яўляецца М я т л у ш к а.

М я т л у ш к а. Трымайся, рыцар! *(Дапамагае юнаку выбрацца на цвёрдую глебу.)*

Я н у к *(адчувае сябе прыніжаным)*. Дзякуй табе... Але я б і сам выбраўся...

М я т л у ш к а. Ты б выбраўся! Недарэка! Ты ж зусім не ўмееш хадзіць па балоце. Глядзі, бачыш — высокая белая трава? Гэта сівец. Трэба ступаць толькі там, дзе ён расце. А ты палез проста ў багну!

Я н у к. Калі-небудзь я пастараюся таксама выратаваць цябе...

М я т л у ш к а. Ну чаму ты ўвесь час задаешся? Трэба быць простым, як гэтыя зоры, як кветкі, тады зробішся мудрым.

Янук хоча ісці далей, але небарака зусім згубіў арыентацыю. Памкнуўся ў адзін бок, у другі. Спрабуе ступіць на купіну, але зноў ледзь не правальваецца ў багну. Тады, спрабуючы захаваць шляхецкую годнасць, звяртаецца да Мятлушкі, якая з добразычлівай і крыху іранічнай усмешкай сочыць за яго дзеяннямі.

Я н у к. Можа быць, добразычлівая панна падкажа мне, у якім баку знаходзіцца палац Кадука?

М я т л у ш к а. Падкажу, калі пан Янук такі ўпарты...

Я н у к. Я хачу вызваліць князёўну Даратэю!

М я т л у ш к а. Ну тады пайшлі, я цябе правяду. *(Паказвае дарогу.)* А што, князёўна Даратэя прыгажэйшая за мяне?

Я н у к *(узнёсла)*. Яна — прыгожая, як сонца! Не, ты, канешне, таксама прыгожая... Толькі... нейкая шэрая.

М я т л у ш к а *(з уздыхам)*. Я — начны матылёк, дух месячнага лесу. Мае колеры спяць. А вось і балота скончылася. Ой, глядзі! Сюды ідуць Начніцы! Яны вартуюць шлях да палаца!

Набліжаюцца Н а ч н і ц ы — прыгожыя дзяўчаты ў цёмна-сініх туніках, густа ўсыпаных зоркамі-бліשчынкамі.

П е р ш а я  Н а ч н і ц а. О рыцар! Хадзі са мною — я зраблю цябе самым багатым у свеце! Я аддам табе сто патаемных скарбаў — ты купіш сэрцы першых прыгажунь і мячы найлепшых вояў! *(Перасыпае з рукі ў руку золата.)*

М я т л у ш к а *(шэпча)*. Не вер ім, яны хочуць загубіць цябе!

Д р у г а я  Н а ч н і ц а. Хадзі са мною, рыцар! Я дапамагу табе здабыць славу! У мяне ёсць зачараваныя даспехі і зброя, ты будзеш пераможцам на ўсіх рыцарскіх турнірах! *(Паказвае залаты лаўровы вянок.)*

Т р э ц я я  Н а ч н і ц а. Са мною! Толькі са мною, рыцар! Ты разумны і адважны, табе павінна належаць улада! Я зраблю цябе каралём вялікай дзяржавы, ты будзеш караць і літаваць, аб'яўляць вайну і заключаць мір. Вялікія дзеянні чакаюць цябе, рыцар! *(Працягвае Януку карону.)*

Я н у к. Шаноўныя пані, дазвольце мне прайсці, бо я — верны рыцар панны Даратэі і магу служыць толькі ёй.

Начніцы круцяцца вакол Янука, нашэптваюць сваё: «Улада!», «Слава!», «Багацце!».

*(Спрабуе вырвацца з іх кола, нарэшце выхоплівае меч.)* Прэч адсюль, морак начны!

Н а ч н і ц ы разлятаюцца.

М я т л у ш к а. Малайчына, Янук! Начніцы служаць Кадуку, бо зло аднолькавае і ўдзень, і ўначы. Але гэта яшчэ не перамога! Сюды набліжаюцца Страхі — слугі Кадука. Мне страшна, Янук!

Я н у к. Не бойся, Мятлушка, я з табою!

Мятлушка хаваецца за Янука. Падыходзяць С т р а х і — пачварныя істоты. Яны стараюцца напалохаць Янука, прымусіць яго адступіць.

С т р а х і *(разам)*

Мужнасць і вернасць
Растануць, як дым.
Страх — не ўначы.
Страх — у сэрцы тваім.
Страхі ўладараць людскою душой!
Рыцар, спыніся!

*(Крычаць адзін за адным.)*

Ты мой!
Ты мой!
Ты мой!
Ты мой!

Янук разганяе С т р а х і мячом. Раптам святлее, і наперадзе паказваюцца вялікія залатыя вароты.

М я т л у ш к а. Вось ён, уваход у палац Кадука!

Я н у к. Нарэшце! Даратэя, даражэнькая, я тут! Я хутка! *(Падбягае да варот і спрабуе іх адчыніць. Яго спыняюць крыкі.)*

Л е с а в і ч о к. Пачакай! Не адчыняй вароты, пакуль не адыдзе Мятлушка!

Ж ы т н і ч а к. Мятлушка! Мілая! Ледзь знайшлі цябе!

М я т л у ш к а. Сябры! Як вы сюды трапілі? Як вы перайшлі праз Чорнае балота? У вас жа няма крылаў, як у мяне!

Л е с а в і ч о к. Бываюць імгненні, калі ў кожнага вырастаюць крылы.

Ж ы т н і ч а к. Мы паспелі своечасова. Ляці хутчэй дадому, хавайся!

Я н у к. А што пагражае шаноўнай паненцы?

Л е с а в і ч о к. Хіба ты не ведаеш, што ёй нельга паказвацца на сонцы? Сонца спаліць яе крылы! Сонца заб'е яе! А там, у палацы Кадука, увесь час — поўдзень!

М я т л у ш к а. Праўда... А я нібыта і забылася...

Я н у к. Ну што ж, калі так — дзякуй табе, Мятлушка... *(Падыходзіць, пацiскае ёй руку.)* Ляці, хавайся! Толькі хутчэй!

Мятлушка падыходзіць да Жытнічка, просіць.

М я т л у ш к а. Жытнічак, міленькі! Я пайду, схаваюся... Ты залацісты, як сонечны прамень, ты зможаш прайсці незаўважна ў Кадукоў палац... Прыгледзь за Януком, каб не здарылася з ім бяда. Тады раскажаш мне.

Ж ы т н і ч а к. Добра, Мятлушка... Толькі дзеля цябе!

Л е с а в і ч о к і М я т л у ш к а, узяўшыся за рукі, уцякаюць. Я н у к адразу ж расчыняе вароты і заходзіць у палац. За ім крадма прабіраецца Ж ы т н і ч а к.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Палац Кадука. Вельмі светла. Але святло нейкае нежывое, сляпучае. Кругом блішчыць пазалота. На вялікім шыкоўным ложку спіць князёўна Д а р а т э я, багата і ярка апранутая. Каля ложка — накрыты на дваіх столік, прыгожыя крэслы з высокімі спінкамі, трумо з усялякай парфумай. На падлозе — пушысты кілім-самалёт, прыкаваны залатым ланцугом да спецыяльнага слупка. Я н у к падыходзіць да Даратэі.

Я н у к. Ты спіш, мая панна! Я ведаю, пракляты Кадук зачараваў цябе. Але я ведаю, як цябе пабудзіць — пра гэта напісана столькі казак! Прабачце, мая дарагая, што вымушаны скрасці пацалунак з вашых чароўных вуснаў! *(Схіляецца над князёўнай, хоча яе пацалаваць.)*

Д а р а т э я *(сонным голасам)*. Гэта ты, стары чорт? Што ты мне прынёс? *(Расплюшчвае вочы, палохаецца.)* Ой, хто гэта?

Я н у к *(становіцца на калена)*. Шаноўная панна Даратэя, няўжо вы не пазнаяце вашага адданага рыцара? Ваша кветка заўсёды каля майго сэрца *(дастае кветку, паказвае)*, а ваша імя — на маіх вуснах! Я прыйшоў вызваліць вас!

Д а р а т э я. А, помню... Юнак пад балконам... Значыцца, ты прыйшоў вызваліць мяне? Гэта прыемна. *(Устае з ложка, садзіцца перад люстэркам, прыхарошваецца.)*

Я н у к. Шаноўная панна! Хутчэй пойдзем адсюль!

Д а р а т э я. Пойдзем? Спадзяюся, ты прыехаў у карэце? З табой многа слуг?

Я н у к *(разгублена)*. Па праўдзе кажучы, я... *(Глядзіць на ганарлівы твар князёўны і паныла паўтарае сваю легенду.)* Дарогай здарылася са мною страшнае няшчасце. У мяне была цудоўная залатая карэта, запрэжаная коньмі з каралеўскае стайні... Але іх з'елі ваўкі...

Д а р а т э я. Разам з карэтай?

Я н у к. Карэта, пазбаўленая такім подлым чынам коней, пакацілася пад адхон і, упаўшы ў глыбокае возера, затанула...

Д а р а т э я. Разам з фурманам і лёкаямі?

Я н у к *(адчуваючы, што князёўна з яго насміхаецца, спрабуе змяніць тэму размовы)*. Але я не смею больш займаць каштоўны час высакароднай паненкі аповедамі пра свае няшчасці. Даратэя, прашу вас, хутчэй пойдзем адсюль!

У пакой заходзіць К а д у к. Ён зусім нястрашны. Таўшчэзны стары, які маладзіцца. Апрануты ў чорны сурдут і капялюш-цыліндр, відавочна з іншай эпохі. Белая кашуля, лакіраваныя чаравікі, у пятлічцы — кветка. У руках — вялікі прыгожы букет штучных кветак і куфэрачак.

К а д у к *(здзіўлены з'яўленнем Янука)*. Вось нечаканыя госці!

Я н у к *(выхоплівае меч)*. Абараняйся, подлы выкрадальнік паненак! Я, Янук Шукайла-Залескі, выклікаю цябе на смяротны бой!

Князёўна Даратэя ўскрыквае і падае ў непрытомнасці на ложак, што не перашкаджае ёй час ад часу прыўзнімаць галаву, каб сачыць за падзеямі.

К а д у к *(спакойна і лагодна)*. Ай-яй-яй, малады чалавек! Як не сорамна! Толькі ўвайшоў у чужую хату, адразу з мячом на безабароннага старога гаспадара... А яшчэ шляхціц!

Янук сумеўся. Не ведае, што рабіць, апускае меч.

Давай лепш прысядзем, спакойна абмяркуем усе прэтэнзіі і прапановы.

Ж ы т н і ч а к *(выглядвае з-за трумо)*. Не слухай Кадука! Ён цябе падмане!

Янук сядае на прапанаванае крэсла, але адчувае, што не можа з яго ўзняцца. Дарэмна спрабуе юнак вырвацца.

Я н у к. Гэта несумленна! Не па-шляхецку!

К а д у к *(павучальна).* Якія неспакойныя маладыя людзі ў наш час... Толькі ўсадзіш іх на ўтульнае месца — адразу кудысьці імкнуцца, то князёўнаў ратаваць, то Кадукоў забіваць...

Тым часам прыбягаюць Кадуковы слугі — С т р а х і, звязваюць юнака, адбіраюць у яго меч. Кадук са смехам кладзе букет і куфэрак на ложак, каля князёўны Даратэі. Ён скідвае цыліндр і сурдут, слугі падаюць яму чорны, з залатой аздобай плашч, карону і меч. Цяпер Кадук сапраўды падобны на злога чараўніка. Ён падымае меч і падыходзіць да Янука.

Д а р а т э я *(прыўзнімае галаву).* Кадучок, няўжо ты так жорстка абыдзешся з гэтым прыгожым маладым чалавекам?

К а д у к. А што зробіш, сонца маё? У маім становішчы нельга цярпець канкурэнтаў, асабліва калі яны маладыя і прыгожыя.

Д а р а т э я. Але ж ён такі бескарыслівы, такі адданы... *(Капрызна.)* Мне яго шкада!

К а д у к *(падыходзіць да Даратэі, гаворыць напаўголаса).* Падумай сама, дыяменцік мой. Калі я зараз не скончу з ім, ты можаш застацца не толькі без гэтага *(дастае з куфэрка, які нёс у падарунак, прыгожае калье)*, але і без усяго гэтага *(абводзіць рукою шыкоўны пакой).* А ўспомні пра ўласны кілім-самалёт *(паказвае)*, пра бурштынавы палац на беразе мора! А птушынае малачко, што спецыяльна для цябе прыносяць Мроі з Млечнага Шляху!

Даратэя кажа сваё штучнае «Ах!» — і зноў падае на ложак.

Ж ы т н і ч а к. Хутчэй пабягу па дапамогу! Мятлушка павінна нешта прыдумаць! *(Выбягае.)*

Кадук зноў, не спяшаючыся, набліжаецца з мячом да Янука. Той глядзіць проста ў вочы свайму кату, сцяўшы вусны, спакойны і мужны.

К а д у к

Што перад бляскам золата і сталі
Пялёсткі дабрыні, агеньчык веры?
Хто ўбачыць хараство Мятлушкі шэрай?

Хто непахіснасць рыцара пахваліць?
Чароўнай Даме дарыць дыяменты,
А не ўздыханні, мой ты рыцар бедны...

Падымае меч, але раптам чуюцца крыкі: «Мятлушка, стой, ты загінеш!»

Улятае Мятлушка. Яркае святло асляпляе яе, яна прыкрываецца рукою. Кадук адступае, бачачы, што Мятлушка трымае ў другой руцэ месячны прамень. Страхі таксама адступаюцца, з бояззю пазіраючы на чароўную зброю ў руцэ дзяўчыны.

Не падыходзь! Табе тут не месца, дзіця ночы! Калі ты наблізішся да майго святла, загінеш! Пашкадуй сябе! Ляці назад!

Мятлушка. Мне ўсё роўна!

Лячу на прывідны агонь,
Мая любоў зямная.
Хай ночы цёмнае крыло
Мяне не захінае.
Імгненні ёсць — калі нішто
І боль, і страх, і згуба.

*(Хістаючыся, набліжаецца да Кадука, з-за спіны якога зіхаціць яркае бязлітаснае святло.)*

Янук. Мятлушка, ты загінеш! Стой!

Мятлушка. Жыві і помні, любы! *(Кідае ў Кадука месячны прамень.)*

Зацямненне. Кадук падае. Сцены палаца разбураюцца. Страхі разбягаюцца. Мятлушка на хвіліну апраменьваецца яркім святлом і падае...

Зноў святло. Але не такое сляпучае, як раней. На месцы палаца застаўся толькі прыкаваны да слупка кілім-самалёт. Вакол — лес. Над ім узыходзіць сонца. Над Мятлушкаю схіліліся Жытнічак і Лесавічок.

Жытнічак *(плача)*. Мятлушка!

Лесавічок *(стрымлівае слёзы)*. Мятлушачка!

Янук устае. Яго нішто больш не трымае. Глядзіць на Мятлушку, на Даратэю.

Д а р а т э я *(азіраецца вакол).* Ну вось! Нічога не засталося! *(Глядзіць на свае пальцы, шукаючы пярсцёнкі, намацвае завушніцы.)* Ніколі, ніколі ў жыцці ў мяне не будзе больш такіх скарбаў! Гэй ты, мой рыцар!

Янук паварочваецца да князёўны.

Ты вызваліў мяне. Цяпер можаш правесці мяне дадому. Па меншай меры, кілім-самалёт застаўся... Не ісці ж мне пешкі! *(Змяняе тон на какетлівы.)* Урэшце, ты ж дзеля мяне столькі перанёс, праявіў такую мужнасць і вернасць! Дарогаю раскажаш мне пра свае подзвігі — ты так цудоўна расказваеш! Ну, доўга цябе чакаць? *(Сама адчэплівае кілім-самалёт ад слупка.)*

Але Янук праходзіць паўз яе да Мятлушкі, схіляецца над ёю разам з Лесавічком і Жытнічкам, становіцца на калена.

Я н у к. Мая Чароўная Дама! Прысягаю табе ў вернасці і любові! Клянуся, што ніколі не забуду цябе і ні на кога не прамяняю. З тваім імем на вуснах, у тваю светлую памяць я здзейсню мноства слаўных подзвігаў! *(Схіляецца над Мятлушкаю і цалуе яе.)*

Раптам зноў гасне святло, а калі яно ўспыхвае, Мятлушка павольна падымаецца. З ёй адбылася дзіўная змена: адзенне праменіцца яркімі колерамі, вочы ззяюць, валасы зрабіліся залацістымі, вусны — яркімі, як маліны. Толькі крылы зніклі назаўсёды.

Ж ы т н і ч а к. Мятлушка, ты зноў жывая!

Л е с а в і ч о к. Якая ты прыгожая!

Ж ы т н і ч а к. У яе больш няма крылаў...

Л е с а в і ч о к. Але яна зусім не баіцца сонца!

М я т л у ш к а *(кладзе руку на плячо Янука).* Высакародны рыцар Янук Шукайла-Залескі! Ты верна служыў дабру, а значыць — мне. Я пасвячаю цябе ў свае рыцары!

Я н у к. Ад сёння — назаўсёды!

Д а р а т э я. Ды што ж гэта такое — апошняе адбіраюць! Янук! Ты ж мой рыцар!

Янук не звяртае на яе словы ўвагі, бярэ Мятлушку за руку. Мятлушка і Янук глядзяць адно аднаму ў вочы так, што Лесавічок і Жытнічак дружна ўздыхаюць.

Л е с а в і ч о к. Эх, Мятлушка... А я думаў: будзеш ты некалі гаспадыняй майго ляснога маёнтка...

Ж ы т н і ч а к. А я марыў, што падару табе сваё залатое поле...

Я н у к. А яна будзе ўладарыць у замку маіх продкаў. Там няма золата і слуг, няма коней з каралеўскае стайні і дыяментаў з каралеўскага куфэрка, але я дару ёй сябе і сваё каханне!

М я т л у ш к а. Дурненькі! У нас будзе ўсё зорнае неба, усё сонечнае святло, усе кветкі і крынічная вада! У нас будуць дні і ночы, песні і казкі, каханне і згода! Мы — самыя багатыя ў свеце!

Д а р а т э я *(стоячы на кіліме-самалёце, тупае нагой)*. Здаецца, пра мяне забыліся? Я не магу больш заставацца ў гэтым дзікім і пустэльным — па вашай міласці — месцы. Хачу дадому! У свой палац! *(Тупае нагою.)*

Нечакана кілім уздымаецца. К н я з ё ў н а ад нечаканасці нязграбна падае на яго і з віскам знікае разам з кілімам.

Я н у к. Хай сонца паліць...
Л е с а в і ч о к. Хай дождж імжыць...
Ж ы т н і ч а к. Зліецца неба з зямлёй!..
У с е р а з а м. А рыцар мусіць заўжды служыць
Чароўнай Даме сваёй!

*Заслона*

*1994*